ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 25 (1662) | Аўторак, 27 сакавіка 1962 года | Цана 4 кап.

## ТРЭЦІ ЎСЕСАЮЗНЫ З'ЕЗД КАМПАЗІТАРАЎ АДКРЫЎСЯ

МАСКВА, 26 сакавіка. (ТАСС). Сёння ў Вялікім Крамлёўскім палацы пачаў работу Трэці Усесаюзны з'езд кампазітараў. Залу запоўнілі прадстаўнікі творчых арганізацый саюзных і аўтаномных рэспублік краіны — кампазітары, музыказнаўцы, музыканты-выканаўцы, дзеячы літаратуры і мастацтва.

Паяўленне ў ложах таварышаў Л. І. Брэжнева, Г. І. Воранава, Ф. Р. Казлова, А. М. Касыгіна, О. В. Куусінена, А. І. Мікаяна, Д. С. Палянскага, М. А. Суслава, М. С. Хрушчова, П. Н. Дземічава, Л. Ф. Ільічова, Б. М. Панамарова, А. М. Шалепіна дэлегаты і госці з'езда сустрэлі гарачымі працяглымі апладысментамі.

Кароткім уступным словам з'езд адкрыў старэйшы кампазітар краіны Ю. А. Шапорын. Ён адзначыў, што за пяць гадоў з часу Другога з'езда савецкія музыканты, акрыленыя агульным духоўным уздымам нашага народа, многа і плённа папрацавалі на карысць сацыялістычнай культуры. Ён падкрэсліў, што Праграма Камуністычнай партыі, прынятая XXII з'ездам КПСС, — гэты важнейшы дакумент эпохі — адкрывае нябачаныя перспектывы і перад савецкім музычным мастацтвам.

Ю. А. Шапорын паведаміў удзельнікам з'езда, што ў зале прысутнічаюць зарубежныя дэлегацыі з многіх краін свету. Ён сардэчна вітаў дарагіх гасцей.

Удзельнікі з'езда з вялікай аднадушнасцю выбіраюць у ганаровы прэзідыум Прэзідыум Цэнтральнага Камітэта партыі на чале з М. С. Хрушчовым.

Выбіраюцца кіруючыя органы: прэзідыум, сакратарыят, мандатная і рэдакцыйная камісіі.

Аднагалосна прымаецца наступны парадак работы з'езда.

1. Даклад «На шляху да музычнай культуры камунізма» (стан і задачы савецкай музычнай творчасці ў святле рашэнняў XXII з'езда КПСС).
2. Даклад цэнтральнай рэвізійнай камісіі.
3. Даклад мандатнай камісіі.
4. Аб праекце новага статута Саюза кампазітараў СССР.
5. Выбары праўлення Саюза кампазітараў СССР.
6. Выбары цэнтральнай рэвізійнай камісіі.

Цёпла сустрэты прысутнымі на з'ездзе выступіў член прэзідыума, сакратар ЦК КПСС М. А. Суслаў. Ён зачытаў прывітанне Цэнтральнага Камітэта КПСС, звернутае да з'езда. Дэлегаты і госці з вялізарнай увагай выслухалі яго. У зале доўга грымелі апладысменты.

Ад імя ўдзельнікаў з'езда старшынствуючы Д. Д. Шастаковіч выказаў Цэнтральнаму Камітэту гарачую падзяку за давер'е і мудрую дапамогу. Ён запэўніў, што савецкія кампазітары будуць энергічна змагацца за далейшы росквіт музычнай культуры камунізма.

Слова для даклада «На шляху да музычнай культуры камунізма» атрымлівае першы сакратар праўлення Саюза кампазітараў СССР Ц. Н. Хрэннікаў.

Тамара Цыкунова, перадавая работніца магілёўскага завода «Электрарухавік». Фота Г. УСЛАМАВА (БЕЛТА).

## ЖЫВЕ Ў ВЁСЦЫ ІНТЭЛІГЕНТ...

**Ул. УРБАНОВІЧ,**
**настаўнік**

Валеўка. Маленькая вёска паблізу легендарнага возера Свіцязь. Калгас, сярэдняя школа, бальніца, аптэка, сельпо, сельсавет, ветучастак, пошта. Тыповая беларуская вёска. Жыве тут і працуе больш за 60 чалавек інтэлігенцыі—людзей, якія скончылі вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы. Гэта педагогі, урачы, ветэрынары, аграномы, заатэхнікі, работнікі культасветустаноў, служачыя. У кожнага з іх, вядома, вельмі многа службовых спраў. Але ёсць у кожнага і дадатковая «служба»—грамадская праца.

Уласна, яны непарыўныя і аднолькава важныя—служба, за якую сельскі інтэлігент атрымлівае заработную плату, і «служба», за якую ніхто яму не плаціць. Хаця сказаць так—значыць, сказаць няпраўду. Бо і за грамадскую «службу», тым больш, калі нясеш яе са шчырым сэрцам, з глыбокай і добрай думкай пра тых, каму служыш—і за яе інтэлігент атрымлівае плату. Своеасаблівую плату. Плату пашанай і любоўю аднавяскоўцаў.

Што такое інтэлігент на вёсцы? Ці зменшыла ролю яго як носьбіта разумнага, светлага, вечнага шырокае пранікненне ў вёску кнігі, радыё, тэлебачання, кіно? Не, не зменшыла. Больш таго—павялічыла і ўскладніла. Бо чым шырэйшым становіцца кругагляд чалавека, тым больш узнікае ў яго пытанняў. Але калі ў горадзе са сваімі пытаннямі чалавек ідзе ў бібліятэку, лекторый, да адпаведнага спецыяліста, дык у вёсцы з такімі пытаннямі ідуць да нас—настаўнікаў, урачоў, культработнікаў. Коласаўскі Лабановіч і не сніў, што селянін можа прыйсці да настаўніка з такім складаным палітычным ці навуковым пытаннем, з якім прыходзяць часам да нас.

Вось сяджу я і пераглядаю падпісныя лісты на 1962 год. Шмат газет і часопісаў дастаўляе пошта ў вёску. Тут розныя выданні: «Коммунист» і «Огонёк», «Полымя» і «Юность», «Наука и религия» і «Вокруг света», «Знание—сила» і «Советский экран». Ці толькі для сябе выпісваюць усё гэта мае таварышы? І для сябе, каб не адстаць, каб быць на ўзроўні часу; і для іншых — суседзяў, вучняў, землякоў, каб прапанаваць ім артыкул ці апавяданне, каб здолець растлумачыць тое, што іх зацікавіла, адным словам, каб несці ў народ веды.

З гэтай жа мэтай створана ў вёсцы група Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў. 15 членаў групы—настаўнікаў, урачоў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі—больш за сто пяцьдзесят разоў выступілі на працягу года перад насельніцтвам. Часам здараецца што, каб прачытаць лекцыю ці даклад, неабходна ісці пешшу ў халодную зімовую ноч за тры-пяць кіламетраў. І гэта робіцца. Робіцца не за плату, не ў пагоні за славай, а з пачуцця неабходнасці памагчы народу зразумець веліч сённяшніх дзён.

Ды хіба толькі лекцыі! А ўдзел у гуртках мастацкай самадзейнасці? Ніводзін канцэрт для насельніцтва не абыходзіцца без удзелу сельскай інтэлігенцыі. Выкладчык музыкі і спеваў Валеўскай сярэдняй школы А. Бразоўскі кіруе хорам пры сельскім Доме культуры. Калі калгас прапанаваў яму плату, ён успрыняў гэта, як абразу. Дырэктара Багудзенскай сямігадовай школы В. Сакевіча калгаснікі выбралі старшынёю калгаса. Але гэта не перашкаджае яму чытаць лекцыі, удзельнічаць у мастацкай самадзейнасці. Глыбока чалавечныя адносіны да людзей, увага да людзей, забяспечылі яму пашану калгаснікаў.

Ні адна падзея ў жыцці нашай калгаснай вёскі не праходзіць без удзелу сельскай інтэлігенцыі. І на агітпункце, і на жывёлагадоўчай ферме, і на таку—усюды вы сустрэнеце сельскага інтэлігента.

Але ў гэтым артыкуле хочацца мне сказаць і пра іншае. Пра тое, што рабілі б мы значна больш, калі б не прыкрыя цяжкасці. Я маю на ўвазе цяжкасці, якіх не так ужо складана было і пазбегчы—яны не заканамернасць часу, а вынік няўважлівасці некаторых мясцовых кіраўнікоў да сельскай інтэлігенцыі.

Возьмем, напрыклад, жыллё. Асноўная маса настаўнікаў, аграномаў, служачых вымушана жыць на вёсцы ў нанятых кватэрах. Умовы для працы і адпачынку ў такіх кватэрах больш чым неспрыяльныя. Два гады таму назад я працаваў у вёсцы Райца. Жылі ў маленькім пакойчыку ў сялянскай хаце. Змясціць кнігі ў кватэры не было дзе. Некалькі сот тамоў ляжала на гарышчы, у кладовай, кнігі псаваліся.

Вечар. Прыходзім з жонкаю са школы (працавалі ў дзве змены). Хочацца адпачыць. Уключаю радыё, але адразу ж—стук гаспадыні ў перагародку.

— Выключце! Дзеці спяць!

І я выключаю. Надыходзіць ноч. З-за сценкі чуецца дзіцячы плач. Дзіцячы плач—гэта, безумоўна, натуральна і нічога не зробіш, але спаць я не магу. Мне скажуць: «Неабходна было змяніць кватэру». Але змяніць не было як. Мае калегі жылі яшчэ ў горшых умовах, часамі ў адным пакоі з сям'ёю і дзецьмі гаспадара.

У Валеўцы пры школе ёсць чатыры аднапакаёвыя кватэры, у якіх жывуць чатыры сям'і. Цесната. Прадукты захоўваюцца ў калгаснікаў-суседзяў або проста на двары ля дома ў прыстасаваных для гэтай мэты скрынках, кнігі—на гарышчы. Кватэры рамантуюцца дрэнна, на рамонт і ўпарадкаванне іх сельсавет грошай не адпускае.

Што ў такіх умовах не толькі працаваць, але і жыць цяжка — гэта бясспрэчна.

Частка сельскай інтэлігенцыі імкнецца пабудаваць свае дамы. Гэта не праяўленне дробнаўласніцтва, а проста—жыццёвая неабходнасць. Самая актуальная бытавая праблема ў жыцці сельскай інтэлігенцыі—жыллёвая.

Камунізм патрабуе ўсебаковага развіцця асобы чалавека. Значыць, клопаты аб духоўным і культурным росце чалавека, у тым ліку і сельскага інтэлігента,—гэта неад'емная частка нашага жыцця. Радыё, густая сетка бібліятэк, кіно садзейнічаюць культурнаму і духоўнаму росту сельскага інтэлігента, як і кожнага чалавека. Але не заўсёды мы можам карыстацца ўсім гэтым. Проста ў нас мала часу, асабліва ў настаўнікаў, хаця нямногія з іх працуюць у школе больш як па тры гадзіны ў дзень. Калі лічыць, што амаль кожнаму сельскаму настаўніку неабходна прымаць удзел у рабоце секцыі класных кіраўнікоў, у рабоце прадметных камісій, вытворчых нарад, педсаветаў, наведваць палітзаняткі, прафсаюзныя сходы, кіраваць работай аднаго, а то і двух гурткоў, то выйдзе, што два-тры вечары на тыдні ён «засядае» часамі па тры-чатыры гадзіны. У многіх школах не цэняць час настаўніка. Кожнаму наўмысна робяць «вокны» ў раскладзе і даказваюць, што гэта нібыта спрыяе паляпшэнню яго работы.

А колькі ў настаўніка марнай, часта зусім непатрэбнай пісаніны... Ён піша каляндарныя планы і планы выхаваўчай работы ў двух экземплярах, рабочыя планы на кожны ўрок, вядзе дзённік назіранняў за вучнямі, кожную чвэрць адну і тую ж адзнаку запісвае ў класны журнал, і ў ведамасць паспяховасці, і ў асабовую справу, і ў вучнёўскі дзённік. А калі ўлічыць, што многія настаўнікі пачатковых класаў вядуць два класы, то адзін толькі экземпляр каляндарных планаў на паўгоддзе займае ў іх каля 60 старонак. У некаторых месцах настаўнікаў прымушаюць нават дзяжурыць начамі ў сельсавеце. Я не гавару ўжо аб такіх рэчах, як праверка сшыткаў, наведванне бацькоў, падрыхтоўка да выхаваўчых мерапрыемстваў, педагагічная прапаганда, выпуск насценных газет і да т. п. Усё гэта забірае ў сельскага настаўніка шмат часу, неабходнага, каб чытаць метадычную і мастацкую літаратуру, сістэматычна слухаць радыё і наведваць кіно, працаваць над павышэннем свайго ідэйнага і культурнага ўзроўню.

Бывае і крыўднае, грубае ў адносінах да сельскага інтэлігента. У вёсцы Малюшыцы Карэліцкага раёна старшыня калгаса тав. Зантовіч патрабаваў ад дырэктара школы зняць адну прыбіральшчыцу з работы і вярнуць яе на працу ў калгас. Пытанне паставілі на абмеркаванне мясцкома. Настаўнік тав. Маляйковіч выступіў у абарону прыбіральшчыцы (ніякіх юрыдычных падстаў для зняцця яе з работы не было). Праз некаторы час старшыня калгаса (чалавек з вышэйшай адукацыяй) дае ўказанне: «Адключыць электрычнае святло ў тав. Маляйковіча». Патрабавалася ўмяшанне першага сакратара райкома партыі, каб настаўніку зноў падключылі электрасвятло.

Часта нас папракаюць, што летам мы не працуем у калгасе, што некаторыя сельскія інтэлігенты трымаюць свае каровы, маюць зямельны ўчастак і г. д. Але ніколі не чуў ніхто з нас, каб крытыкавалі каго-небудзь за тое, што і па мяса, і па муку, і па масла, і па іншыя прадукты мы ездзім за 20—40 км у горад. І зямельныя ўчасткі, і карова, і паездкі па прадукты ў горад—гэта вялікая для

(Заканчэнне на 4-й стар.)

### З кінакамерай па рэспубліцы

Мінская студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў выпусціла на экраны гарадскіх кінатэатраў і сельскіх клубаў кіначасопіс «Савецкая Беларусь» № 7, першы сюжэт якога «Каб край наш багацеў» прысвечаны рабоце рэспубліканскай нарады маладых механізатараў сельскай гаспадаркі ў Мінску.

Далей гледачы даведаюцца аб тым, што ўступіла ў строй другая чарга Аршанскага ільнокамбіната, папрысутнічаюць на VI з'ездзе мастакоў Беларусі, зробяць экскурсію па аўдыторыях і лабараторыях галоўнага корпуса універсітэта імя Леніна, будаўніцтва якога закончана ў Мінску, пазнаёмяцца з работай торфапрадпрыемства «Калпеніца» Брэсцкай вобласці.

Выклікае цікавасць у гледачоў і кінасюжэт аб новых узорах мэблі, якую пачала выпускаць Бабруйская мэблевая фабрыка.

## АПЯВАЦЬ СУЧАСНАСЦЬ, ВУЧЫЦЦА Ў НАРОДА

Восем дзён працягваўся ў Мінску IV з'езд кампазітараў Савецкай Беларусі. Дэлегаты і госці, пры актыўным удзеле шырокай грамадскасці, пазнаёміліся з вялікай колькасцю новых твораў беларускай музыкі, пачынаючы ад дзіцячых песень, камерна-інструментальных п'ес і мініяцюр і канчаючы буйнымі маштабнымі сімфанічнымі палотнамі, операй і балетам. Праслуханыя творы, самыя розныя па тэматыцы і зместу, неаднолькавыя па майстэрству выклікалі сапраўдную творчую дыскусію, жывы таварыскі абмен думкамі.

Перад тым, як пачаць спрэчкі, старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР Я. Цікоцкі даў слова для даклада старшыні рэвізійнай камісіі І. Кузняцову, які даволі падрабязна ахарактарызаваў стан творчых і матэрыяльна-фінансавых спраў у Саюзе кампазітараў БССР, указаў на цэлы рад істотных недахопаў, што мелі месца ў рабоце праўлення за справаздачны перыяд.

Творчую дыскусію па праслуханых музычных творах і спрэчкі па справаздачнаму дакладу адкрыў кампазітар Л. Кауфман (Украіна). Ён перадаў удзельнікам з'езда цёплае сяброўскае прывітанне ад украінскіх кампазітараў і музыказнаўцаў. Прамоўца сказаў, што, мяркуючы па тых шматлікіх творах, якія прагучалі на з'ездаўскіх канцэртах, стваральнікі беларускай музыкі дамагліся значных творчых поспехаў. Л. Кауфман падзяліўся сваімі ўражаннямі аб канцэртных праграмах. Так, да ліку лепшых твораў ён адносіць цікава і ярка напісаную вакальна-сімфанічную паэму «Вечна жывыя» Г. Вагнера, дзе аўтар добра выкарыстоўвае жаночы хор; сімфонію Л. Абеліёвіча, балет «Мара» Я. Глебава. Шмат цікавых знаходак, гаворыць прамоўца, ёсць у оперы Ю. Семянякі «Калючая ружа». Але ён раіць кампазітару зрабіць яшчэ адзін варыянт гэтага твора — аперэтачны: замяніць прозай музычныя рэчытатывы, перагледзець інструментоўку.

Слова мае музыказнаўца з Алма-Аты А. Кельберг.

— Дарагія таварышы беларускія кампазітары! — сказаў ён.— На гэтым з'ездзе, вядома, вам хацелася б чуць толькі прыемныя і салодкія прамовы. Адна казахская прымаўка гаворыць: калі будзеце гаварыць соладка — змяя выпаўзе з нары. Вось чаму пасля знаёмства з беларускай музыкай я хачу падзяліцца сваімі думкамі не толькі аб тым, што мне ў ёй спадабалася, але і аб тым, што выклікала нездавальненне. На фоне вялікай колькасці добрых твораў, што прынеслі слухачам эстэтычную асалоду, на з'ездзе прагучала нямала шэрай, пасрэднай музыкі. А. Кельберг лічыць, што віяланчэльны канцэрт і санату для габоя і фартэпіяна П. Падкавырава, «Карнавальную сюіту» Я. Дзягцярыка, кантату «Радуйся, наша зямля» І. Кузняцова і рад іншых твораў не варта было ўключаць у канцэртныя праграмы.

Пагаджаючыся са станоўчай ацэнкай Л. Кауфмана, дадзенай ім вакальна-сімфанічнай паэме Г. Вагнера «Вечна жывыя», музыказнаўца з Казахстана дадае ад сябе, што музыка яе меладычная, яркая, багатая фарбамі, аркестравымі знаходкамі. Парадавалі яго і змястоўныя, сур'ёзныя па думцы інструментальныя творы Д. Камінскага, напісаныя з бляскам, у добрых традыцыях. Больш падрабязна А. Кельберг спыняецца на разглядзе оперы «Калючая ружа» Ю. Семянякі, лічачы яе музыку вельмі цікавай, напеўнай і запамінальнай. У гэтым творы ёсць выдатныя знаходкі, гаворыць прамоўца, у прыватнасці каларатурны вакаліз на фоне галопу, тэлефоннае арыёза ў другім акце, некаторыя харавыя песні, сцэна ап'янення. І як шкада, што ў аркестравай музыцы оперы амаль адсутнічаюць элементы сімфанічнага развіцця, няма кульмінацый у сярэдзіне актаў. Назіраецца аднастайнасць фактуры і аркестравых прыёмаў, не ўсе меладычныя інтанацыі адпавядаюць нашай рэчаіснасці. Аднак, нягледзячы на гэтыя недахопы, нельга змяншаць значэнне гэтай сучаснай оперы.

Спадабалася А. Кельбергу Першая сімфонія маладога кампазітара Д. Смольскага, як найбольш цэласны і гарманічны па форме твор. Цікавасць выклікаў і канцэрт для цымбал таго ж аўтара, але, на думку прамоўцы, гэта — хутчэй сімфанічная п'еса з саліруючым фартэпіяна, чым твор, спецыяльна напісаны для народнага аркестра. Пра сімфонію Л. Абеліёвіча музыказнаўца з Алма-Аты сказаў, што яна напісана рукою добрага прафесіянала, але ў ёй адчуваецца ўплыў Шастаковіча. У першай частцы відаць некаторая лёгкаважкасць галоўных тэм, выклікае супярэчлівае ўражанне пасакалія, а асноўнае — здзіўляе некаторая няпэўнасць нацыянальнай глебы. Фінал, які павінен быць лагічным завяршэннем цыкла, аказаўся непадрыхтаваным папярэднім развіццём і таму выглядае не зусім радасным. Радасць тут засмучана скептычнай усмешкаю, у адрозненне ад светлага настрою Трэцяй сімфоніі Я. Цікоцкага, поўнай нацыянальных напеўных мелодый. А. Кельберг станоўча адгукнуўся аб першых сімфоніях Р. Бутвілоўскага і Ул. Чараднічэнкі.

Маскоўскі кампазітар І. Болдыраў выступіў з крытычным разглядам музычна-сцэнічных твораў. У оперы Ю. Семянякі яго засмуціў некаторы налёт вульгарнасці. Сам падыход да вобразнай характарыстыкі герояў, да драматычнай сітуацыі, прамоўца лічыць больш аперэтачным, чым оперным. У той жа час, на яго думку, у балеце, вельмі даступным і меладычным па музыцы, адчуваецца клопат кампазітара аб нацыянальным каларыце персанажаў і наогул усяго твора.

— На працягу тыдня, раніцаю і ўвечары, мы слухалі беларускую музыку, — так пачала сваю прамову загадчык сектара Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору А. Ладыгіна. — Слухалі ў жывым выкананні і механічным запісе, слухалі ў розных аўдыторыях і канцэртных залах, у оперным тэатры. Дзве асноўныя думкі склаліся ў мяне ў сувязі з праслуханай музыкай, калі гаварыць у самым агульным плане. Па-першае, наша кампазітарская арганізацыя папоўнілася таленавітай моладдзю, якая даволі смела заявіла аб сабе; па-другое, наступіў прыкметны пералом у самой творчасці нашых кампазітараў. З'явіліся, нарэшце, творы, на падставе якіх можна весці размову пра сапраўдную сучаснасць у музыцы. Праўда, адна сучасная тэма яшчэ не з'яўляецца рашаючай у творы.

І тут А. Ладыгіна спасылаецца на оперу Ю. Семянякі. Па тэме, гаворыць яна, «Калючая ружа»— твор сучасны, але калі меркаваць па яго музычных вобразах, па музычнай мове і сродках увасаблення, дык гэтай сучаснасці амаль няма. Пераважаюць адчувальныя сентыментальныя інтанацыі. Наконт вызначэння жанра «Калючай ружы», пра яе блізкасць да аперэты ўжо гаварылася многімі, аднак аўтары і пастаноўшчыкі не згодны з гэтым. Больш цікавым музыказнаўца лічыць балет Я. Глебава «Мара», у якім вабяць не толькі маляўнічасць інструментоўкі, пошукі «касмічных» тэмбраў, але і значнасць музыкі, размах і шырыня музычнага дыхання.

Глыбока ўсхвалявалі А. Ладыгіну і такія творы, як сімфоніі Д. Смольскага, Л. Абеліёвіча, Ул. Чараднічэнкі.

А. Ладыгіна таксама зазначае, што строгага адбору твораў для паказу на з'ездзе, відаць, не было і таму ў праграмы ўвайшлі дзве нецікавыя сімфанічныя п'есы з цыкла «Марскія карціны» Я. Дзягцярыка і малавыразны, стылістычна стракаты віяланчэльны канцэрт П. Падкавырава. Прамоўца шкадуе, што за апошні час разладзіліся творчыя кантакты паміж музыказнаўцамі трох асноўных устаноў рэспублікі — Саюза кампазітараў, кансерваторыі і Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Музыказнаўцы працуюць ізалявана адзін ад аднаго.

Ад імя ваенных музыкантаў і дырыжораў узорнага духавога аркестра штаба Беларускай ваеннай акругі і ўсіх аркестраў часцей удзельнікаў з'езда вітаў дырыжор А. Майзлер. Ён спыніўся на некаторых прынцыпова важных пытаннях прапаганды духавой музыкі ў рэспубліцы. Духавыя аркестры адыгрываюць вялікую ролю ў эстэтычным выхаванні народа, таму што яны пастаянна маюць сувязь з шырокімі масамі радавых слухачоў. На жаль, гаворыць прамоўца, нашы кампазітары недастаткова аддаюць увагі гэтым творчым калектывам. Мала і вельмі рэдка пішуць для іх новыя творы. У рэпертуары ваенных музыкантаў амаль адсутнічае беларуская музыка, калі не лічыць некалькіх маршаў, напісаных кампазітарамі рэспублікі да Усебеларускага фестывалю моладзі. Праўда, ёсць некаторыя пералажэнні для духавога аркестра, выкананыя асобнымі аўтарамі. Але гэтыя пералажэнні чамусьці не выдаюцца, а ляжаць нерухома ў Міністэрстве культуры і рэспубліканскім Доме народнай творчасці. А хіба гэта дапушчальны факт, што да гэтага часу ў нас не выдадзена масавым тыражом партытура Гімна Беларускай ССР, і кіраўнікі шматлікіх самадзейных аркестраў самі яго інструментуюць для выканання?

Горкаўскі кампазітар Б. Благавідаў адзначыў высокі прафесіянальны ўзровень выканання канцэртных праграм. Ён задаволены, што ўдалося бліжэй і ўсебакова пазнаёміцца з творчасцю беларускіх аўтараў і столькі пачуць новай музыкі. Але чаму такое знаёмства адбываецца толькі на нашых з'ездах? — гаворыць Б. Благавідаў. — Чаму мы не можам наладзіць сталую сувязь паміж асобнымі творчымі саюзамі ў няз'ездаўскі час, каб ездзіць адзін да аднаго з творчымі справаздачамі і абменьвацца навінкамі музыкі?

Высока ацэньваючы балет Я. Глебава за яго ярка вызначаную тэматыку, канфліктнасць і кантрастнасць эпізодаў і правільна размеркаваныя кульмінацыі, Б. Благавідаў сказаў, што гэты твор заслугоўвае самай шырокай прапаганды і ён будзе прасіць кіраўніцтва Горкаўскага тэатра ўключыць гэты балет у рэпертуарны план. Затым горкаўскі кампазітар пачынае палеміку з некаторымі папярэднімі прамоўцамі ў адносінах оперы «Калючая ружа». Можна гаварыць пра недастатковае майстэрства аўтара, зазначае ён, але ўсё ж оперны спектакль хвалюе гледачоў, дзякуючы сваёй сучаснай тэматыцы і многім музычным якасцям (дасціпна выкарыстана, у прыватнасці, вакальная партыя ў галопе, добрая музыка вальса). Але самае галоўнае, гэтая опера захапляе сваёй песеннасцю. Праўда, прамоўцу таксама не задавальняе жанравая няпэўнасць твора Ю. Семянякі: ці гэта опера, ці аперэта. Для оперы не хапае разгорнутага сімфанічнага абагульнення, сімфанічных кульмінацый, а для аперэты—так званых каскадных нумароў, камедыйнага гумару. Відаць, кампазітару варта прыслухацца да крытыкі і зрабіць для сябе сякія-такія вывады на будучыню.

Гаворачы ў дадатак да ўжо сказанага пра няўдалы віяланчэльны канцэрт П. Падкавырава, Б. Благавідаў лічыць гэты твор разнастыльным па музыцы. Партыя саліруючага інструменту напісана ў ім неапраўдана цяжка і невыразна ў рэгістравых адносінах. Сімфонія Д. Смольскага — безумоўна патрэбны твор, але ў ім яшчэ не ўсё добра зроблена і таму зусім дасканалым яго нельга назваць.

Пра эстэтычнае выхаванне працоўных і прапаганду музычнага мастацтва ў рэспубліцы гаварыў на з'ездзе мастацкі кіраўнік Беларускай філармоніі І. Палівода.

— Перад намі стаіць задача,— сказаў ён, — значна палепшыць абслугоўванне канцэртамі сельскага насельніцтва, шырока разгарнуць музычна-адукацыйную работу сярод дзяцей і юнацтва, наладзіць папулярызацыю камернай музыкі. Без актыўнай дапамогі кампазітараў і музыказнаўцаў работнікам філармоніі адным проста цяжка з гэтым справіцца і дамагчыся жаданых вынікаў.

Больш падрабязна І. Палівода спыняецца на стане нашага эстраднага мастацтва. У нашай філармоніі пастаянна дзейнічаюць ад васьмі да адзінаццаці брыгад беларускіх эстрадных артыстаў. На жаль, адзначае прамоўца, гэты аператыўны і вельмі патрэбны жанр мастацтва яшчэ не ў пашане ў беларускіх пісьменнікаў і кампазітараў. Наадварот, з іх бо-

(Заканчэнне на 2-й стар.)

### ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА КАМПАЗІТАРАЎ

Адбыўся пленум праўлення Саюза кампазітараў БССР, які разгледзеў арганізацыйныя пытанні.

Старшынёй праўлення саюза выбраны народны артыст СССР Я. К. Цікоцкі, намеснікамі — народны артыст СССР Р. Р. Шырма, заслужаны дзеяч мастацтва БССР А. В. Багатыроў, сакратаром — музыказнаўца І. Г. Нісневіч.

### Лёгкім штрыхам

Сяброўскія шаржы М. ЛІСОЎСКАГА.

Ул. Алоўнікаў.

П. Падкавыраў.

Я. Цікоцкі і М. Аладаў.

# ПАЭЗІЯ ПЯЦІ СТАГОДДЗЯЎ

Аляксей ЗАРЫЦКІ

У канцы мінулага года Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла ў свет трохтомную анталогію беларускай паэзіі. На старонках анталогіі, а іх больш як дзве тысячы, змешчаны творы 128 аўтараў, пачынаючы з Георгія Скарыны, які нарадзіўся каля 1490 г., і канчаючы паэтэсай Данутай Бічэль, маладзейшай за нашага першадрукара на 448 гадоў. Такім чынам, перад намі паэтычная справаздача амаль за пяць стагоддзяў.

Анталогія адкрываецца мудрымі радкамі Георгія Скарыны і Сімеона Полацкага, творчая праца якіх мела вялікае значэнне для братніх народаў — рускага, украінскага і беларускага.

XVI стагоддзе прадстаўлена ў анталогіі творамі Г. Скарыны і С. Полацкага. XVII не прадстаўлена нікім. А варта было б уключыць у анталогію вядомы верш Яна Казіміра Пашкевіча «Полска квитней лациною, Литва квитней русчизною», напісаныя ў першай палове XVII стагоддзя. Верш Пашкевіча вельмі цікавы не толькі сваёй лексікай, але і зместам: аўтар у гэтым творы гаворыць аб выключна вялікім значэнні і папулярнасці рускай мовы і пісьменнасці — «русчизны» — у тыя часы ў Вялікім княстве літоўскім. Без «русчизны», паводле слоў Пашкевіча, «в Литве блазном будешь».

Нікім не прадстаўлена ў анталогіі і XVIII стагоддзе, у якім так моцна выявіліся пагібельныя вынікі доўгай адарванасці беларускіх земляў ад Расіі. Гэтая адарванасць прыводзіць нарэшце да таго, што Беларусь робіцца ахвярай польскіх паноў, якія праводзілі палітыку бязлітаснай гвалтоўнай паланізацыі. У 1696 годзе польскі сейм пастанавіў, што «пісар павінен па-польску, а не па-руску пісаць». Гэтым была скасавана пастанова Літоўскага статута, дзе падкрэслівалася: «А писаръ земъски маетъ поруску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншям языком и словы».

Пачаліся самыя змрочныя часы панска-каталіцкай рэакцыі. Беларуская мова была забаронена, беларускія друкаваныя кнігі перасталі выходзіць. Усё гэта вельмі дрэнна адбілася на развіцці беларускага мастацкага слова, і не выпадкова цэлае стагоддзе не падало свайго голасу ў анталогіі.

Канец XVIII стагоддзя азнаменаваўся далучэннем Беларусі і Правабярэжнай Украіны да Расіі. Праўда, тагачасная Расія сама яшчэ была прыгоннай краінай, і царскі ўрад праводзіў палітыку русіфікацыі, але гэта далучэнне мела надзвычайна вялікае станоўчае значэнне. Справа ў тым, што ўз'ядналіся назаўсёды тры братнія народы, якія ў старажытнай рускай дзяржаве складалі адзін народ з адной мовай і культурай. Гэта ўз'яднанне братніх народаў паскорыла іх рух наперад. Уплыў рускай перадавой думкі, перадавой рускай культуры вельмі спрыяльна адбіўся на духоўным жыцці Беларусі. Невыпадкова пасля ўз'яднання братніх народаў ажывае і беларуская літаратура, а пачатак яе адраджэння прыпадае на той час, калі ў Расіі паявіліся дзекабрысты, калі пачалі тварыць Пушкін, Гогаль, Лермантаў, Бялінскі. Аб гэтым красамоўна сведчаць старонкі першага тома анталогіі беларускай паэзіі, на якіх змешчаны такія выдатныя рэчы, створаныя ў першай палове XIX стагоддзя, як «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе». Гэтыя паўнакроўныя каларытныя паэмы, напісаныя сакавітай народнай мовай і з хітрым гумарам, з вялікай асалодай чытаюцца і сёння. Выдатны рускі паэт-перакладчык Міхаіл Лазінскі, пераклаўшы на рускую мову «Тараса на Парнасе», са здавальненнем сказаў, што адчувае сябе пасля гэтай працы так, быццам з'еў поўную талерку добра заскваранай густой капусты.

Усхвалявана і моцна гучыць са старонак анталогіі чысты малады голас Паўлюка Багрыма. Кароткай была яго песня, але запомнілася яна Беларусі назаўсёды. Шырока прадстаўлена і творчасць паэтаў Вікенція Дуніна-Марцінкевіча і Янкі Лучыны. Звыш 30 старонак займаюць у першым томе анталогіі творы лепшага беларускага паэта XIX стагоддзя Францішка Багушэвіча. Не забыліся ўкладальнікі першага тома аб малавядомых, але змястоўных і цікавых беларускіх вершах выдатнага польскага паэта-дэмакрата Уладзіслава Сыракомлі і аднаго з нашых першых фалькларыстаў Яна Чачота. Самыя ўдалыя з гэтых твораў увайшлі ў анталогію.

Чытаючы лепшыя творы беларускіх паэтаў мінулага стагоддзя, сабраныя ў анталогіі, зноў і зноў пераконваешся, што ў беларускай літаратуры, пачынаючы з самых першых дзён яе адраджэння, вельмі выразна вызначыліся рэвалюцыйна-дэмакратычныя тэндэнцыі развіцця, што яна з самага свайго пачатку была непарыўна звязана з жыццём свайго народа, з яго вуснай творчасцю. Яна расла проста з самай гушчы народнага жыцця.

Гартаем далей старонкі першага тома анталогіі. Малюнкі рэвалюцыі 1905 года зырка асвятляюць пачатак XX стагоддзя. Таленавітая Цётка кідае ў рэвалюцыйны народ, як пракламацыі, свае вершы-заклікі. Першая беларуская паэтэса была настолькі смелай ва ўсіх сваіх справах, што мужнасці гэтай жанчыны маглі б пазайздросціць і многія адважныя мужчыны.

Пад раскаты грымотаў 1905 года беларускі народ упершыню пачуў голас Янкі Купалы. Многа напісана аб гэтым вялікім паэце, цяжка дадаць што-небудзь новае. Калі я думаю пра Купалу, то ў маёй памяці перш за ўсё пачынаюць гучаць радкі яго геніяльнага верша «А хто там ідзе?» А перад вачыма паўстае незлічоная грамада. Ідуць мільёны людзей. Гэта ідзе цэлы народ, ідуць беларусы, абуджаныя рэвалюцыяй, патрабуючы, каб іх людзьмі звалі. Неаглядная грамада зліваецца ўдалечыні з небакраем, а сярод першых ідзе і сам паэт. Напісаў бы Купала толькі адзін гэты верш, і то ён застаўся б у памяці, бо, грунтуючыся на вопыце сусветнай літаратуры, можна ўпэўнена сказаць, што не кожнаму з самых геніяльных паэтаў удавалася намаляваць такую грандыёзную карціну, якую намаляваў Купала ў пятнаццаці радках свайго «А хто там ідзе?»

За творамі Янкі Купалы ў анталогіі ідуць творы нашага другога вялікага песняра Якуба Коласа, буйнейшага майстра беларускай эпічнай паэзіі. Яго паэмы «Новая зямля», «Сымон-музыка», «Рыбакова хата» нагадваюць нашы шырокія паўнаводныя рэкі — Дняпро і Прыпяць, якія павольна плывуць міма бароў, палёў, вёсак, гарадоў. І добра, што ў анталогіі мы, апроч вялікай падборкі лепшых вершаў Якуба Коласа, знаходзім і некалькі раздзелаў з яго лепшых паэм.

Творчасць Максіма Багдановіча таксама ўсебакова прадстаўлена ў анталогіі.

Звыш трыццаці старонак адведзена паэтычным творам Змітрака Бядулі. Чытач знойдзе ў анталогіі не толькі шматлікія вершы Бядулі-паэта, але і ўрыўкі з яго паэм «Палескія байкі» і «Ярыла».

У першым томе змешчаны падборкі вершаў Цішкі Гартнага і Алеся Гурло, творы старэйшага паэта Янкі Журбы і нашай паэтэсы Канстанцыі Буйла, якая пачала друкавацца яшчэ ў «Нашай ніве».

З цікавасцю чытаюцца вершы Фелікса Тапчэўскага, Адама Гурыновіча, Альгерда Абуховіча, Каруся Каганца, Альберта Паўловіча, Анатоля Дзеркача, Гальяша Леўчыка, Старога Уласа—паэтаў малавядомых, паўзабытых, але ў кожнага з іх ёсць нешта сваё, адметнае, добрае. І гэтыя паэты ўнеслі свой пасільны ўклад у скарбніцу беларускай паэзіі.

Асобна хочацца спыніцца на вершы «Ванда Карсак» паэта і драматурга Міхайлы Грамыкі, які пачаў пісаць яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы. У гэтым невялікім вершы, напісаным у 1925 годзе, Грамыку пашанцавала простымі звычайнымі словамі вельмі праўдзіва расказаць пра адно надзвычай светлае і чалавечнае каханне. Па сваёй шчырасці і паэтычнай перакананасці гэты верш нагадвае мне цудоўны «Начлег у дарозе» Роберта Бёрнса.

Мы развітваемся з 28 паэтамі, з якімі сустрэліся ў першым томе анталогіі, і пераходзім да другога тома, дзе нас чакае сустрэча яшчэ з 43 майстрамі паэтычнага слова. Сюды ўваходзяць творы тых аўтараў, якія пачалі сваю літаратурную дзейнасць пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

І гэты том таксама шчодры падарунак усім сябрам паэзіі. Чытаючы мужныя, натхнёныя радкі паэмы Петруся Броўкі «Праз горы і стэп», мы бачым, як паблісківаюць шаблі адважных чырвоных коннікаў часоў грамадзянскай вайны, якія прабіваюцца ў баях праз «абвеяны снегам суровы Каўказ». Раздзелы выдатнай паэмы Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады» ўваскрашаюць шматпакутны гераічны Мінск першых дзён Айчыннай вайны і барацьбу народа з гітлераўцамі. Глыбока ўражае трапны гумар цудоўных баек Кандрата Крапівы, празрыстыя, чаканныя строфы Пятра Глебкі і моўнае багацце і маляўнічасць лірыкі Максіма Лужаніна.

У другім томе надрукавана вялікая падборка твораў Міхася Чарота, аднаго з пачынальнікаў беларускай савецкай паэзіі. У гэтую падборку ўваходзіць і яго вядомая паэма «Босыя на вогнішчы». Беспрычынна рэпрэсіраваны ў часы культу асобы Сталіна, Міхась Чарот цяпер зноў заняў сваё месца ў беларускай літаратуры, а яго творы, як і творы іншых нашых пісьменнікаў, што нявінна пацярпелі пры кульце асобы, вернуты народу.

У іх ліку вернуты нашаму народу вершы і паэмы Андрэя Александровіча, Уладзіміра Дубоўкі, Алеся Звонака, Язэпа Пушчы, Міколы Хведаровіча. Яны ўнеслі немалы ўклад у нашу паэзію і плённа працуюць і сёння.

Нельга прайсці міма вельмі своеасаблівых вершаў Уладзіміра Хадыкі. Ён ішоў сваім шляхам, цягнуўся да выразнай лірыкі, густа насычанай нечаканымі вобразамі, да глыбокіх абагульненняў. Праўда, часам з прычыны залішняй ускладнёнасці творы Ул. Хадыкі трацяць у значнай меры сваю непасрэднасць, але яны цікавыя і сваёй змястоўнасцю і арыгінальнымі вобразамі.

Па-ранейшаму прываблівае нас «Дзесяты падмурак» Паўлюка Труса, паэта, які застаўся ў нашай памяці вечным юнаком, песняром першай пяцігодкі.

Па-маладому гучаць і такія вядомыя вершы Піліпа Пестрака, як «Паэзія», «Дарожка», «Сон аб аграноме».

Прыемным будзе чытачу таксама знаёмства з падборкай вершаў Аркадзя Моркаўкі. Моркаўка за 57 год жыцця (памёр ён у 1957 годзе) напісаў і выдаў толькі адну кнігу вершаў, але гэта паэт з вельмі чыстым і свежым голасам.

Гартаючы старонкі анталогіі, сустракаешся не толькі з шырокавядомымі паэтамі, вершы якіх перачытваеш часта і ахвотна, але і з творамі паэтаў паўзабытых і забытых, апошнія зборнікі якіх выйшлі ў свет многа год назад. І там ёсць добрыя паэтычныя знаходкі. Вось арыгінальнае і паэтычнае вершаванае апавяданне Алеся Вечара «Маўчыць граніца». Яшчэ ў 30-х гадах Алесь Вечар, выдаўшы свой першы зборнік вершаў, заняўся навуковай дзейнасцю. Ён стаў буйным спецыялістам у галіне біяхіміі, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР, але лепшы твор Вечара, напісаны ў маладосці, гучыць і сёння. Прыцягваюць увагу і вершы Уладзіміра Жылкі, якія пасля смерці паэта (памёр ён у 1933 годзе) не выдаваліся.

Моцнае ўражанне робіць вялікі ўрывак з паэмы Змітрака Астапенкі «Эдэм» — аднаго з лепшых эпічных твораў у беларускай паэзіі.

Закрываецца другі том вершамі Анатоля Астрэйкі, паэта, адзін з лепшых зборнікаў якога «Слуцкі пояс» выйшаў у 1943 г. у друкарні газеты «Народны мсцівец», што выдавалася партызанамі ў тыле ворага. У падборку ўключаны лепшыя вершы вядомага паэта-партызана.

У трэцім томе анталогіі таксама сабраны немалыя паэтычныя скарбы. Тут і вялікія падборкі вершаў нашых выдатных паэтаў Максіма Танка і Пімена Панчанкі, якія заслужылі прызнанне народа. Тут і вершы цэлай плеяды ўмелых майстроў паэзіі: Васіля Віткі, Валянціна Таўлая, Міколы Засіма, Сяргея Грахоўскага, Міхася Калачынскага, Аляксея Русецкага, Сяргея Дзяргая, Антона Бялевіча, Кастуся Кірэенкі, Міколы Аўрамчыка, Анатоля Вялюгіна, Аляксея Пысіна, Уладзіміра Корбана, паэтаў таленавітых і розных, якія падарылі нам многа добрых твораў.

У гэтым томе шырока прадстаўлена паэтычная моладзь. Яна хутка расце, і без яе творчасці ўжо немагчыма уявіць сённяшні дзень нашай паэзіі. Паэма «Партызанская балада» Уладзіміра Караткевіча, многія творы Рыгора Барадуліна, Сцяпана Гаўрусёва, Ніла Гілевіча, Еўдакіі Лось і некаторых іншых маладых паэтаў бясспрэчна ўваходзяць у лік лепшых здабыткаў нашай паэзіі за апошнія гады.

Пры ўкладанні анталогіі тамсям дапушчаны асобныя недаробкі. Так, чамусьці месцам нараджэння паэта Алеся Жаўрука называецца горад Рослаўль, а нарадзіўся ён, як правільна сказана ў прадмове да выбраных твораў Жаўрука, у гарадзе Сянно. Гэта акалічнасць устаноўлена на падставе дакументаў, якія ёсць у сясцёр загінуўшага паэта. У біяграфічных даведках некаторых паэтаў, пераважна маладых, раптам не называецца імя па бацьку. Гэта ўжо няйдбайнасць.

Укладальнікамі і рэдактарамі анталогіі зроблена вельмі вялікая і карысная праца: яны любоўна і ўмела сабралі ўсё лепшае, што было створана беларускімі паэтамі.

Сабраныя разам скарбы беларускай паэзіі даюць магчымасць лепш уявіць увесь яе шлях. Не прэтэндуючы ў гэтым невялікім артыкуле папулярызатарскага характару на абагульняючыя вывады, я хачу падкрэсліць толькі адну выдатнейшую рысу нашай паэзіі. На белым свеце ёсць нямала народаў, якія могуць ганарыцца сваёй надзвычай багатай паэзіяй і імёнамі сусветнавядомых паэтаў-класікаў. Такія літаратуры, як магутныя патокі. Беларускай літаратуры таксама ёсць кім ганарыцца, у яе ёсць такія волаты, як Янка Купала і Якуб Колас. Беларуская паэзія — гэта свежая плынь, крыніца незвычайнай чысціні і свежасці, бо яна струменіць з глыбіняў жыцця народа, бо ў ёй сакавітасць і прыгажосць жывога народнага слова. І я ўпэўнены, што з гэтай свежай крыніцы будуць піць яшчэ доўгія-доўгія гады паэты і чытачы многіх народаў.

# НА СЦЭНЕ—СТАРАЖЫТНАЯ ІСПАНІЯ

За апошнія гады балетны калектыў Беларускага тэатра оперы і балета паказаў некалькі новых спектакляў. Увагу гледача прыцягнулі і маладзёжныя канцэрты.

Балет Мінкуса «Дон-Кіхот», пастаўлены тэатрам, мае доўгае амаль стогадовае сцэнічнае жыццё. У ім ёсць разнастайныя характарныя і класічныя танцы, якія даюць магчымасць паказаць выканаўчую тэхніку. Самае слабае месца балета — яго лібрэта, у якім выкарыстаны толькі адзін з другарадных эпізодаў вядомага рамана: гісторыя кахання Кітры і Базіля. Яны і з'яўляюцца галоўнымі дзеючымі асобамі.

На першы погляд здаецца, што пастаноўка «Дон-Кіхота» не павінна ствараць асаблівых цяжкасцей для балетмайстра. Але на самой справе, калі твор слабы з драматургічнага боку, пастаноўшчыку часта прыходзіцца ператвараць спектакль у маляўнічы дывертысмент з асобных танцавальных нумароў і эпізодаў. Таму, каб стварыць цэльны спектакль па такім творы, балетмайстар павінен прыкласці максімум намаганняў і рэжысёрскага майстэрства.

Нам здаецца, што балетмайстру А. Андрэеву ўдалося стварыць маляўнічы, поўны дынамікі твор. Многа ўвагі аддадзена пастаноўцы масавых сцэн. Артысты кардэбалету не з'яўляюцца «фонам», на якім танцуюць Кітры і Базіль, яны — актыўныя ўдзельнікі падзей. Найбольш ярка гэта праяўляецца ў сцэнах на плошчы і ў таверне.

Пярэчанне выклікае фінал спектакля: паядынак невядомага рыцара з Дон-Кіхотам. На наш погляд, больш мэтазгодна, каб гэта сцэна адбывалася раней, да пачатку віртуознага класічнага дуэта Кітры і Базіля, які з'яўляецца кульмінацыйным пунктам спектакля.

Масавыя танцы ў спектаклі вабяць сваёй прыгажосцю, пачуццём стылю. Сегідылья ў першым акце выканана са стрыманым тэмпераментам, выразныя рухі і позы танцораў. Цікава, з добрым густам пастаўлены цыганскі танец, у якім выступілі салісты В. Крыкава і М. Шэхаў.

Наогул, у апошніх балетных спектаклях выкананне масавых танцаў значна палепшылася. У гэтым заслуга балетмайстраў Н. Стукалкінай і А. Андрэева.

«Дон-Кіхот» — адзін з нямногіх балетаў старога рэпертуару, дзе галоўныя партыі пабудаваны на адзінстве характарнага і класічнага танцаў. Партыі Кітры і Базіля складаныя і патрабуюць ад выканаўцаў вялікага майстэрства і бездакорнага валодання тэхнікай танца.

Нам давялося бачыць два склады выканаўцаў. На прэм'еры ролю Кітры выконвала артыстка Л. Ражанава, якая вядома як стваральніца лірычных вобразаў. З такой жа своеасаблівай роллю, як Кітры, Л. Ражанава сустракаецца ўпершыню. Але ўжо можна сказаць, што яна імкнецца ўнесці ў вобраз новыя рысы, перадаць вялікую любоў сваёй гераіні да жыцця. Найбольш удалае ў выкананні Л. Ражанавай лірычнае адажыо ў другой дзеі.

Партыю Базіля ў гэтым жа спектаклі танцаваў артыст В. Міронаў, які праявіў добры густ і высокае майстэрства. Яго сцэнічныя паводзіны натуральныя і простыя.

Артысты І. Савельева і М. Красоўскі, выконваючы гэтыя ж партыі, паказалі выдатную тэхніку класічнага танца. Асабліва ярка гэта прыкметна ў вялікім дуэце — своеасаблівым спаборніцтве Кітры і Базіля, якое паказвае іх спрыт, прыгажосць, адлюстроўвае радасць і шчасце.

Нядрэнных вынікаў дамагліся і іншыя артысты. Добрыя акцёрскія здольнасці ў артыста С. Дзятко, які мякка, з пачуццём гумару выконвае ролю Санча-Панса. В. Асядоўскі старанна распрацаваў пластычны малюнак ролі Дон-Кіхота. Добра праводзіць ён уступную сцэну, дзе перадае задуменнасць свайго героя. Разам з тым, у выкананні артыста не заўсёды адчуваецца ўнутраная логіка паводзін. В. Асядоўскаму трэба больш працаваць над роллю Дон-Кіхота, каб стварыць яшчэ больш цэласны і закончаны вобраз.

Дон-Кіхот (артыст В. Асядоўскі) і Санчо Панса (артыст С. Дзятко).

Партыю Эспады добра выканалі артысты Г. Папоў і Л. Чахоўскі. Маладым выканаўцам неабходна больш кантраляваць свае эмоцыі і тэмперамент, а таксама лепш распрацаваць пластыку рухаў танца.

Запамінаецца і цікавае выкананне артыстам Г. Мартынавым мімічнай ролі Гамаша.

Балет «Дон-Кіхот» — гэта своеасаблівая школа танца, спектакль, які паказвае ўзровень прафесіянальнай падрыхтоўкі і майстэрства артыстаў. Большасць выканаўцаў адпавядае высокім патрабаванням пастаноўшчыка спектакля.

І. Абраміс мае значны вопыт дырыжыравання балетнымі спектаклямі. Аднак дырыжору варта замяніць запаволеныя тэмпы некаторых танцаў. Гэта надасць спектаклю яшчэ большыя дынамічнасць і выразнасць.

Спрыяе поспеху балета мастак Я. Чамадураў, які аформіў спектакль. Асабліва ўдала знойдзена ім каляровая гама для касцюмаў, адпаведная харэаграфічнаму малюнку і стылю танцаў.

А. КАЛЯДЭНКА.

Кітры (артыстка І. Савельева) і Базіль (артыст М. Красоўскі).

САКАВІК — КРАСАВІК

# «НЕМАН»

Другі нумар адкрываецца артыкулам Я. Качана «Ленінізм жыве і перамагае».

Проза прадстаўлена апавяданнямі Т. Хадкевіча і Я. Брыля ў перакладзе з беларускай мовы і раманам С. Прошына «Я забыўся на цішыню» (заканчэнне).

Часопіс друкуе вершы П. Панчанкі (пераклад Б. Слуцкага), Ф. Яфімава, В. Пепяляева, А. Глазырына, М. Шарылава, І. Каспяровіча, Л. Казачэўскага.

Пад рубрыкай «Справы і людзі сямігодкі» змешчаны нарыс В. Праскурава «Пяшчотныя рукі».

А. Слесарэнка выступае з успамінамі аб сваіх сустрэчах з кінарэжысёрам А. Даўжэнкам.

Літаратурная крытыка прадстаўлена артыкулам С. Палякова «Слова аб часе» (пра зборнік вершаў П. Броўкі «А дні ідуць»...) і рэцэнзіямі на кнігі «Дарога ў горы» А. Лазнявога, «Жаваранак» І. Грамовіча, «Беларускі раман» А. Адамовіча, «Заір Ісакавіч Азгур» Ф. Рагінскай.

У часопісе ёсць раздзел «Сатыра і гумар».

## Секцыі абмяркоўваюць

Днямі секцыя мастацкага перакладу абмеркавала паэтычныя кнігі А. Пракоф'ева «Прызнанне ў любві», Ул. Бранеўскага «Дарогай дзён», Т. Масэнкі «Вішнёвыя зоры Украіны» і Х. Данелайціса «Чатыры пары году», перакладзеныя на беларускую мову. У абмеркаванні прынялі ўдзел Я. Семяжон, Хв. Жычка, М. Татур, Л. Салавей і іншыя.

На секцыі разглядалася таксама падрыхтоўка перакладу Байрана на беларускую мову.

* * *

Аб крытыцы на старонках часопіса «Маладосць» шчыра гаварылася на чарговым пасяджэнні секцыі крытыкі і літаратуразнаўства. Даклад «За навуку ў крытыцы, за эстэтычнае і ўважлівае прачытанне твора» зрабіў крытык А. Яскевіч. У спрэчках выступілі М. Стральцоў, В. Адамчык, А. Лойка, Д. Бугаёў, Ю. Канэ, Ул. Бойка, Р. Бярозкін, В. Палтаран, П. Панчанка.

бываецца неяк вельмі ўжо хутка. Амаль не адчуваецца, што людзі выконваюць небяспечную справу.

Не зусім пераканальна раскрывае аўтар у гэтых напружаных акалічнасцях узаемаадносіны дзяцей і дарослых. Вось эпізод з таго ж апавядання «Гняздо на алешыне». Міша павінен расказаць партызанам пра знойдзены брод. Перад самым яго адыходам у лес, у Мішы з маці адбываецца наступная гутарка:

— Мама, давай абедаць, бо мы зноў пойдзем з Петрыкам у грыбы.

Маці глядзіць на сына, уздыхае і кажа:

— Можа, хопіць на сёння, сынок? Ты і так нахадзіўся: і ў грыбы, і на рэчку.

— Трэба, мама, трэба. Там шмат грыбоў.

Маці ведае — не грыбы карцяць сыну — і дае хутчэй есці.

Можна пагадзіцца, што маці адпусціла Мішу, разумеючы важнасць задання. Але цяжка паверыць, каб яна ў такі момант заставалася зусім спакойнай, і ў душы яе не абудзілася мацярынскае хваляванне. Да таго ж Міша — яшчэ зусім малы хлапчук, якога не шкодзіць перасцерагчы і даць адпаведную параду.

Праўдзівасць жыццёвых калізій і праўдзівасць чалавечых характараў аднолькава трэба захоўваць і ў творах для дарослых, і ў творах для юных чытачоў.

Апавяданні «Нечаканая знаходка», «Буслінае качаня», «Пра Зою, Аліка і заморскіх птушак» знаёмяць дзяцей з жывою прыродай.

Кніжка вартая ўвагі бацькоў і настаўнікаў, якія шукаюць, што параіць дзецям чытаць.

В. ЖУРАЎЛЁЎ.

## ТРЫЦЦАЦЬ ПЕРШАЯ

Нядаўна выйшаў чарговы нумар літаратурнага дадатку да часопіса «Вожык» — «Рагуля на экскурсіі». Гэта ўжо трыццаць першая кніжка бібліятэчкі. У зборніку змешчаны гумарыстычныя вершы і фельетоны трох маладых паэтаў: М. Арочкі, М. Гарнака і В. Шымука.

Друкуем верш са зборніка.

## РАКА І БЕРАГІ

Між Берагоў Рака цякла імкліва.
Вясной паводкаю бурліла.
Аднойчы расшумелася і —
Берагам:
«Я больш не пакланюся вам!
Характар у мяне другі —
Нашто цяпер мне Берагі!
Без вас прывольней жыць змагу,
Хутчэй наперад пабягу».
А Берагі ў адказ:
«Дарэмна ты вось гэтак лічыш,
Без нас ты страціш і аблічча.
Не будзеш бурнаю і дужаю,
А расплывешся мелкай лужаю».

Міхась ГАРНАК

# СЛОВА СЯБРА

Перад намі кніга Тарэня Масэнкі «Вішнёвыя зоры Украіны», нашага даўняга сябра і сардэчнага лірыка. Яго цудоўныя ўспаміны пра незабыўнага Янку Купалу і добрыя пераклады паэзіі Я. Купалы і Я. Коласа на ўкраінскую мову шырока вядомы чытачам нашых дзвюх рэспублік.

На ўкраінскай мове выйшла звыш трох дзесяткаў паэтычных зборнікаў Т. Масэнкі. Яго кніга на нашай мове змяшчае лепшае з напісанага ім, яна дае магчымасць уявіць асноўныя этапы станаўлення масэнкаўскай лірыкі.

У зборніку пяць раздзелаў, розных па зместу. Запеў кнізе дае верш, прысвечаны саракагоддзю Вялікага Кастрычніка. У ім паэт піша:

Я ўсё жыццё прайду з людзьмі,
З табою, мой народзе!

Думка гэтая пранізвае ўсю кніжку. Гэта характэрна для першага і заключнага раздзелаў, дзе лірыка знітоўваецца з паэтычнай публіцыстыкай, рамантыка з мужнай героікай. У другіх раздзелах пераважаюць вершы і лірычныя рэпартажы аб паездках у Беларусь, аб братняй дружбе нашых народаў, аб сувязі з Янкам Купалам, змешчаны сучасныя ўкраінскія песні Т. Масэнкі, якія даўно ўжо спяваюць не толькі на Украіне, але і ў іншых рэспубліках.

Лірыка паэта гучыць надзвычай цёпла, сардэчна, ён нібы адкрывае для сябе і для людзей новы свет, поўны аптымістычных пачуццяў. Поўныя хараства і непаўторнасці яго вершы аб прыродзе, чалавечай красе і працы.

Асабліва запамінаецца публіцыстычная лірыка — вершы, у якіх рэвалюцыйная рамантыка пераплятаецца з мужнымі матывамі героікі савецкіх людзей. Мы маем на ўвазе вершы «Батальён імя Шаўчэнкі», што змагаўся ў Іспаніі, «Салют генералу Ватуціну», «Матроская балада», «Памяці герояў» і інш. Яны напісаны ўсхвалявана, шчыра. І мае рацыю паэт, калі гаворыць у вершы «Рось» аб патрыятызме савецкіх людзей:

Дзе б ні былі мы, ні хадзілі —
К бацькоўскай вернемся зямлі,
Бо з родных рэчак свае сілы
З маленства прагна мы пілі.

Паэт, які ўсім сэрцам любіць Шаўчэнку, вельмі ўпадабаў і нашага Янку Купалу, паэзія якога мела на яго вялікі ўплыў. Раздзел «Беларускія матывы» — лірычны рэпартаж, які ўвабраў у сябе і любоў да народа, да нашай Радзімы, і асабліва шырока паказаў літаратурныя сувязі двух братніх народаў — украінскага і беларускага. Надзвычай глыбока перададзена ўкраінскім паэтам яго захапленне творчасцю беларускага кабзара — Янкі Купалы. Вобраз Купалы Т. Масэнка паказвае на шырокім сацыяльным фоне, звязваючы яго з жыццём і працоўнай дзейнасцю нашага народа:

І гонар паэту найбольшы з таго,
Што песня—з народнаю роўна,
Што сэрцы ўкраінцаў хвалюе
яго
Чароўная Бандароўна.

Я. Купала вельмі любіў Украіну, якую ён пяшчотна называў «цвеце любы», любіў украінскую літаратуру, мову. А творчасць яго ў сваю чаргу любілі ўкраінцы. Т. Масэнка, перадаючы словы Купалы, піша:

— Мяне Шаўчэнка парадніў
З напевам, з мовай украінскай,

. . . . . . . .

А ваш Тарас
Мяне вучыў
Спяваць на мове беларускай!
Мо' дзіўна? Дзіўнага—ні-ні:
Адданасць братняга народу,
Што біўся побач дзень пры дні,
Вучыла сэрца парадніць,
А не шукаць сцяжын да броду...

У апошнім раздзеле зборніка «Вішнёвыя зоры Украіны» цэнтральнае месца займаюць думы.

Кніжка нашага даўняга сябра Тарэня Германавіча Масэнкі выдадзена ў Беларусі любоўна. Над перакладамі яго вершаў працавалі А. Куляшоў, П. Панчанка, А. Звонак, А. Зарыцкі, М. Аўрамчык, А. Вялюгін, С. Дзяргай, М. Калачынскі, П. Прыходзька, К. Кірэенка, Р. Няхай, С. Грахоўскі, Ул. Корбан, Хв. Жычка і іншыя. Зборнік адкрываецца артыкулам Р. Няхая.

Кніга добра аформлена мастаком М. Шырокавым.

А. ЕСАКОЎ.

## ПЕРАМОЖЦЫ ШТОРМУ

Жыццё і праца моладзі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі — вось змест кнігі Г. Гартунга «А потым пачаўся шторм...» Героі аповесці юнакі Генэр і Кудл вучацца ў рыбалавецкім камбінаце. Іх мара — стаць маракамі. Генэр і Кудл — розныя характары, але іх яднае любоў да радзімы. Як сапраўдныя патрыёты, маладыя рыбакі вяртаюць кацер, украдзены здраднікам Кнастам і адведзены ў чужы порт.

Пераклад з нямецкай мовы В. Выхоты. Малюнкі Л. Дубара. Адзін з іх мы змяшчаем.

# НАРОДНАЕ БАГАЦЦЕ

Знаёмячыся з народнай творчасцю балгар, вытокі якой — у далёкім мінулым, пераконваешся, які каштоўны скарб народнае мастацтва і перш за ўсё — народная песня.

Невялічкі зборнік «Балгарскія народныя песні», што выйшаў у Дзяржаўным выдавецтве БССР у канцы 1961 года, знаёміць з лепшымі ўзорамі песеннай творчасці нашых братоў. Склаў зборнік і пераклаў з балгарскай мовы тэксты песень паэт Ніл Гілевіч.

Зборнік, нягледзячы на параўнаўча невялікі памер, дае поўнае ўяўленне аб розных тэматычных відах і жанрах балгарскай народнай песні. Па сваёй музычнай фактуры творы зборніка добра перадаюць характэрную для балгарскіх песень нацыянальную спецыфіку: напеўнасць і багацце меладычных ліній, своеасаблівую рытміка-метрычную структуру.

Адкрываюць зборнік песні, блізкія па змесце да гайдуцкіх — песень балгарскіх паўстанцаў. Вялікае эмацыянальнае ўражанне пакідае песня «Ой, як тры стрэльбы стрэлілі». Гэта плач жанчыны-маці па сыне, які загінуў у барацьбе за вызваленне ад турэцкага прыгнёту.

Выключны лаканізм, напеўнасць, яркасць мастацкіх фарбаў, — усё гэта стварае ў невялічкай песні цэласны нацыянальны характар гераіні. Такая своеасаблівасць уласціва амаль кожнай песні ў зборніку. І ў песнях гістарычных («Аблава на гайдукоў», «Дзімітр ваявода»), і ў танцавальных («Тамбуры граюць», «Дзяўчыначка-шчабятуха»), і ў лірычных («Пеўні спяваюць», «Ой, ды завілася», «Чарнавокая Тадорка»), і ў жартоўных («Выплыў месячык на неба», «Ну і ну») і нават у «Песні аўчароў» — ярка індывідуалізаваныя характары герояў. Яны ўсе разам даюць магчымасць адчуць, уявіць ва ўсёй шматграннасці душу народа, які стварыў такія песні. Возьмем, напрыклад, песню «Выплыў месячык на неба», дарэчы, даволі ўдала перакладзеную. Яна ўся прасякнута лірызмам, шчырай усмешкаю, трапным, блізкім і зразумелым нам гумарам.

Наогул, балгарскай народнай песні ўласціва жыццярадаснасць, глыбокі аптымізм. Вера ў светлую будучыню сагравала і давала натхненне народным песнярам у змрочныя часы прыгнёту; новыя песні балгар прасякнуты шчырай радасцю: на шматпакутную зямлю прыйшло сапраўднае шчасце. У гэтым пераконваешся, чытаючы і слухаючы творы, сабраныя ў зборніку «Балгарскія народныя песні». Можна не сумнявацца, што яны значна ўзбагацяць рэпертуары калектываў мастацкай самадзейнасці.

В. НІКІФАРОВІЧ.

